Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 54 Серада, 31-га Сьнежня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Да нашых чытачоў і падпісчыкаў.

**Адміністрацыя „Грамадзскага Голасу“ просіць не марудзіць з падпіскаю на 1925 год, каб ня было пярэрвы у высыланьні газэты.**

# На парозе Новага Году.

Толькі шэсьць няпоўных месяцаў прайшло ад дня выхаду ў сьвет першага нумару нашае газэты, а сколькі дзікае ненавісьці выліта было на шпальтах розных „сялянскіх“, а то і проста „праўдаў“ па нашым адрэсе. Няпоўнага паўгода прайшло ад часу, як мы паднялі голас за гуртаваньне ўсіх яшчэ здаровых нацыянальных сіл дзеля ўнармаваньня палажэньня беларускага народу ў Польскай Рэспубліцы.

Да чаго клікалі мы?

Да легальнае, арганізованнае барацьбы за беларускія нацыянальныя правы, загарантованыя конституцыяй Рэспублікі, за удасканаленьне самых законаў аб нашых нацыянальных правох, за рэалізацыю гэтых правоў.

Як відаць, камусьці не на руку тое, каб народ наш у Польшчы пачуў сябе вальней, каб у краі сваім чуўся, як у сябе ў хаце, ўпартаю працаю на ніве свайго адраджэньня адваёўваючы сваё прыроднае месца пад сонцам.

Камусьці выгадна, каб народу беларускаму ў Польшчы рабілася з кожным днём горай.

І апошні орган прэсы тых, каму гэта выгадна, „Сялянская Праўда“ і яе атожалкі—аднаднёўкі, кірованыя вар'яцкаю рукою беларускага збанкрутаваўшага прэм'ер-міністра пры поўным спагаданьні з боку беларускага пасольскага клюбу сыпалі колькі хацелі ўвесь арсэнал свае брахні і лаяніны, як па адрэсе нязгодных з іхнімі тэндэнцыямі беларускіх грамадзкіх групаў, так і па адрэсе паасобных беларускіх культурных адзінак. Сорам бярэ ад таго, што ніхто з нашых патэнтованых дзеячоў, блізкіх да быўшае „Сялянскае Праўды“, не падняў дасюль голасу проці дзікай партыйнай нецярпімасьці, проці абсолютна някультурных спосабаў палітычнае барацьбы, недастойных мець месца сярод інтэлігэнцыі якой-бы ні было эўропэйскай нацыі.

Мы ня можам цешыцца, калі наш культурны рух коціцца ўдол, калі зьнікае са сьвету кожная, сапраўды годная гэтага назову, беларуская часопісь, але трудна выцієнуць сьлязу з самых найпатрыятычнейшых вачэй беларускіх, калі бачым кананьне гэтае часопісі, хоць сабе й на роднай мове, якая што дзень, дык усё болей абярталася ў нейкі інсінуатарскі лісток.

Азірнёмся назад. Спомнім ад пачатку стары ўжо 1924 год.

Як проста і лёгка на чале беларускае рэпрэзэнтацыі ў Сойме амаль не ў пачатку старога году апынулася новая ў беларускім руху асоба ў постаці даўно вядомага масквафіла, дэвізам якога зьяўляецца бязумоўная опозыцыя ў парлямэнце, опозыцыя навет і тады, калі паўстаюць пытаньні аб законах, якія могуць начаць новую эру ў беларускім нацыянальным жыцьці па гэты бок жахоўнае рыскае граніцы.

Прэса ў постаці аднае, ў пачатку году, газэты прыбіраецца да рук псыхічна зьвіхнутай асобаю, ўтраціўшаю ўсякае пачуцьцё моральнае адпавядальнасьці перад сваімі цёмнымі народнымі масамі за сваю атручаную пэрсональнай ненавісьцю пісаніну.

Ніхто не адважваўся нарушыць манапольнае права палітычнага банкрута распараджацца беларускаю палітычнаю думкаю, як сваею хатняю ўласнасьцю. Увесь рух беларускі падпаў пад крайняе падазрэньне ня толькі офіцыяльных польскіх кругоў, а і таго дэмакратычнага польскага грамадзянства, якое мае ўсё-ж такі пэўныя здольнасьці разумець беларускі рух і яго права на істнаваньне.

Неабходная народу, як будны хлеб, беларуская школьная справа зьвялася да крайнасьці, схіляючыся ў прорву поўнага заняпаду.

У лішні месяцы разглядаюцца ў Сойме языковыя законы, а нашыя парлямэнтары пілатаўскім спосабам умываюць рукі пры гэтай справе. Ня маючы падпоры ў постаці якіх-нібудзь рэальных сіл, яны шукаюць таннае популярнасьці ў неарганізованых народных масах, публікуючы часамі й дарэчныя, а часам абсолютна мітынговыя прамовы на шпальтах свайго паўофіцыёзу; польская дэмакратыя абвяшчае магчымасьць гаварэньня да беларускіх народных масаў і цераз галовы іхніх офіцыяльных прадстаўнікоў у парлямэнце. Яшчэ горай было-б, каб да неарганізованых беларускіх масаў прамаўляць пачалі ня толькі свае, але й чужыя.

І ў трудны час насьпяваўшага пералому ў псыхіцы масаў мы падалі свой толас за тое, каб да сьвятых мэтаў нашае нацыі ісьці арганізованна, а ня дробнымі інтэлігэнцкімі гурткамі, хоць-бы зложанымі сабе навет з адных толькі паважнейшых дзеячоў.

І, стоячы на парозе новага году, мы можам адважна глядзець наперад, бо воля народных масаў да самадзейнасьці выказваецца. У першую чаргу пастаўлена проблема роднае школы і ёсьць поўная надзея, што арганізованымі сіламі, схованымі ў народзе, бяз грукату і галасу родная школа будзе дасягнена ўсюды там, дзе народ гэтага хоча.

Трэба мець надзею, што па чарзе будуць вырашацца цераз упартую творчую працу ўсе іншыя пытаньні аб палепшаньні беларускага лёсу ў Польшчы і шмат чаго новага прынясе Новы 1925 Год.

**У гэтым нумары 6 старонак.**

# Палітычны агляд.

Пад Новы Год заўсёды падводзяцца агулы старога і выказваюцца віды і пажаданьні на новы год. Прайшоўшы год у міжнародных палітычных адносінах адзначыўся цэлым радам буйных падзеяў. У Эўропе леташні год пачаўся агульным рухам улева. У Англіі адтрымалі на выбарах вялікую перамогу соцыялістыя і зьявіўся пры ўладзе першы раз у гісторыі Англіі рабочы ўрад. Пасьля Англіі гэткую самую перамогу адтрымалі ў Францыі радыкалы і соцыялістыя, стварыўшыя левы ўрад — Эрыё. Гэтыя дзьве падзеі мелі вялізнае значэньне дзеля тае ролі, якую граюць у сусьветнай палітыцы Вялікабрытанія і Францыя. Абазналася гэта перш за ўсё зьменаю адносін саюзьнікаў да Нямеччыны і С.С.Р.Р. Датычна першае была прызнана, пад уплывам Амэрыкі, неабходнасьць прыняць пад увагу скаргі Нямеччыны аб яе неплатаздольнасьці. Пасьля досьледу над яе фінансавым і эканамічным палажэньнем спэцыяльнае камісіі пад прэзэсурай амэрыканскага гэнэрала Доўса, раней амэрыканскага віцэ-прэзыдэнта, была склікана ў Лёндане конфэрэнцыя саюзьнікаў, на якой былі і прадстаўнікі Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. Конфэрэнцыя прыняла проект урэгуляваньня рэпарацыйнага пытаньня на аснове пляну Доўса, і Нямеччыне была дана міжнародная грашавая пазычка ў 800 мільёнаў залатых марак. Гэта першая вялікая пазыка пераможанаму краю, зрабіла пачатак для цэлага раду больш дробных прыватных пазыкаў паасобным нямецкім местам і фірмам, як гэтак сама й іншым дзяржавам, паўстаўшым пасьля вайны. Гэткім чынам, пачалася паступова эканамічная адбудова Эўропы пры пасрэдніцтве амэрыканскага капіталу, які душыцца ў сябе ў хаце ад таго, што яго зашмат. І калі паварот палітыкі саюзьнікаў датычна Нямеччыны моцна памог эўропэйскаму міру, дык зблізжэньне Англіі і Францыі з С. С. Р. Р. мела саўсім адваротныя пасьледзтвы.

Прызнаньне радавага ўраду Англіяй і Францыяй de jure і аднаўленьне дыплёматычных і гандлёвых

# 1-ы Зьезд настаўнікаў беларускіх сярэдніх і пачатковых школаў у Вільні 18 і 19 сьнежня 1924 г.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ.

18-го сьнежня 1924 году а 5 гадзіные папалудні Старшыня Часовага Ураду Т-ва „Прасьвета" **п. Косьцевіч** адчыняе зьезд кароткай прывітальнай прамовай, у якой кажа, што мэтай зьезду з'яўляецца адно: беларуская школа. Пытаньне балючае і да яго трэба падыйсьці асьцярожна і з поўнай адказнасьцю за яго перад беларускім народам, які жадае вучыць дзяцей у роднай мове. Прамоўца заклікае ўсіх прысутных бяз розьніцы поглядаў да аб'яднаньня, каб супольнымі сіламі памагчы школьнай беларускай справе, палажэньне якой усім добра вядома. У канцы прапануе прыступіць да выбараў Прэзыдыуму, дзеля чаго выбраць часовага старшыню.

На часовага старшыню зьезд выбірае Дырэктара Віленскай Беларускі гімназіі грам. Астроўскага.

**Грам. Астроўскі** прапануе прыступіць да выбараў Прэзыдыуму.

У прэзыдыум выбіраюць: Старшынёю д-ра А. Паўлюкевіча, віцэ-старшынямі грамадзян: Астроўскага, Косьцевіча і Дырэктара Клецкае Беларускае Гімназіі грам. Якімовіча; сэкрэтарамі — настаўніка Віленскае Беларускае гімназіі грам. Заморына і настаўніцу пачатковае школы грам-ку М. Чыжэўскую.

**Д-р Паўлюкевіч.** Ад імя Часовае Беларускае Рады вітаю Вас, грамадзяне, заклікаңых сюды Т-вам „Прасьвета", дзеля рэалізацыі языковых законаў, якія даюць нам магчымасьць адчыняць беларускія навуковыя установы. Становішча беларускае школы цяжкае, але, каб мы ня мелі надзеі, што гэтае становішча палепшыцца, дык не адарвалі-б вас ад штодзённае цяжкае працы. Але мала мець надзею — трэба таксама працаваць, каб гэтая надзея сталася фактам, каб заглянула сонца і ў наша ваконца. Да гэтай, можа цяжкае, але ўдзячнае, працы заклікаю вас. Далей прамоўца прачытвае парадак дня, які і прыймаецца зьездам аднагалосна.

**Грам. Астроўскі** вітае зьезд ад імя старэйшае беларускае навуковае інстытуцыі—1-е Віленскае Беларускае Гімназіі. Да гэтага часу ўсім прасьветным белар. арганізацыям Польская ўлада ставіла перашкоды ў арганізаваньні і ўтрыманьні пачатковых і сярэдніх беларускіх школаў. Маем надзею што Т-ва „Прасьвета" будзе шчасьлівейшае і самы факт, што яму дазволілі сабраць тут каля сто настаўнікаў са ўсіх куткоў Заходняе Беларусі, сам гэты факт паказвае, што Т-ва „Прасьвета" будзе шчасьлівейшае, як Т-ва Беларускае Школы, якому нават не зацьвярджаюць статуту. Тутака лічу на месцы будзе ўспомніць аб тых, што былі тварцамі языковых законаў і ў першую чаргу міністра Тугута, якому прапаную выслаць ад імя зьезду прывітальную тэлеграму. Апрача таго, прапаную выслаць прывітальную дэпэшу Беларускаму Пасольскаму Клюбу, бо ён быў прычынай таго, што Польскі Сойм прыняў гэтыя языковыя законы *).

Ад імя Беларускае гімназіі ў Клецку вітае зьезд грам. **Арэнь.** Прамоўца падкрэсьлівае цяжкае становішча, ў якім апынілася гімназія, дзякуючы помачы розных „апякуноў".

Ад імя Беларускага Грамадзянскага Сабраньня вітае Зьезд віцэ-старшыня яго грам. **Більдзюкевіч:**

Беларускае Грамадзянскае Сабраньне першае пачало барацьбу за беларускую школу, творачы школьную камісію пры ім і рэгіструючы безработных вучыцялёў. Цяжкае гэта заданьне ня можа быць вырашана бяз учасьця тых, што найбліжэй стаяць да гэтае справы—беларускага настаўніцтва. І пасьля таго, як Грамадзянскае Сабраньне перадало школьныя справы спачатку ў рукі Часовае Беларускае Рады, а далей, у Часовы Урад Т-ва „Прасьвета", спадзяемся, што апошняе, заклікаючы вас сюды, зрабіла вялікі крок наперад на шляху адраджэньня роднае школы.

Далей ад імя настаўнікаў Навагрудзкага ваяводзтва вітае Зьезд гр. **Кернажыцкі**, пасьля чаго, старшыня зьезду др. **Паўлюкевіч** адчыняе дыскусію па пытаньню аб пасылцы тэлеграмаў міністру Тугуту і Беларускаму Пасольскаму Клюбу.

**Гр. Косьцевіч** выказваецца проці пасылкі дэпэшы Беларускаму Пасольскаму Клюбу таму, што ня лічыць, каб Пасольскі Клюб быў прычынай прыняцьця Соймам законаў аб мовах. Пасьля таго, як грам. Астроўскі—запрапанаваў паслаць дэпэшы міністру Тугуту і Бел. Пасольскаму Клюбу ясна, што гэтыя дэпэшы адна адну выключаюць. Праца ў Сойме нашых паслоў ня мае нічога супольнага з языковымі законамі. Школу прызваны тварыць не паслы, а само беларускае настаўніцтва, перад якім ляжаць важнейшыя заданьні, як пасылка дэпэшаў тым, што беларускую школу ня толькі не пабудавалі, але тыя рэшткі, якія да гэтага часу існавалі не маглі абараніць. (*Воплескі*).

Настаўнік Віленскае Беларускае Гімназіі **грам. Савіцкі** падтрымоўвае прапанову грам. Астроўскага аб пасылцы дэпэшы Беларускаму Пасольскаму Клюбу.

**Старшыня д-р Паўлюкевіч:** Беларускі Пасольскі Клюб сваей палітыкай і выступленьнямі зайшоў у тупік з якога трудна выйсьці. Дзякуючы яго тактыцы польская ўлада і бадай усё польскае грамадзянства глядзяць на беларусаў, як на бальшавікоў, якія хочуць аддзяліць Заходнюю Беларусь ад Польшчы. Калі мы пашлём Пасольскаму Клюбу прывітальную дэпэшу—дык гэтым самым давядзём, што мы салідарны з яго палітыкай і ясна, што тады беларуская школьная справа стане на мёртвым пункце.

Сябра Часовае Бел. Рады **грам. Шышкоў** прапануе спыніць дыскусію і прыступіць да галасаваньня.

Некалькі галасоў з месцаў прапануюць тайнае галасаваньне.

**Грам. Косьцевіч:** Я прапаную яшчэ вышэйшую форму галасаваньня — паімённае галасаваньне.

У першую чаргу галасуецца пытаньне пасылаць ці не дэпэшу міністру Тугуту.

Зьезд аднагаласна пастанаўляе паслаць прывітальную дэпэшу мін. Тугуту. Далей галасуецца пытаньне аб пасылцы дэпэшы Беларускаму Пасольскаму Клюбу.

Старшыня аб'яўляе рэзультаты галасаваньня: 41 проціў пасылкі дэпэшы, 15 за і 35 ўстрымаўшыхся.

**Грам. Аустроўскі** лічыць для сябе немагчымым далей супрацоўнічаць са зьездам і дзеля гэтага пакідае салю паседжаньня.

**Грам. Заморын,** ня пытаючыся голасу ўскаківае і крычыць, што ён таксама выходзіць.

За імі выходзяць таксама грам.: Данілевіч, Сакалова, Катовіч і Шутовіч. З вучыцялёў гімназіі на салі застаецца толькі адзін.

**Старшыня, грам. Паўлюкевіч:** Ад імя Прэзыдыуму выношу гр. Заморыну за яго нетактоўны паступак парыцаньне. Адно магу сказаць: „Баба з воза—каню лягчэй". (*Сьмех і воплескі*). Прапаную выбраць замест грам. Астроўскага і Заморына новага віцэ-старшыню і сэкрэтара.

Зьезд выбірае на віцэ-старшыню грам. Шышкова і на сэкрэтара грам. Кернажыцкага.

З дакладу мандатнай камісіі высьнілася, што на зьезд прыбыла з розных месц 86 дэлегатаў.

**Грам. Шышкоў** чытае рэфэрат аб пачатковых школах і вучыцельскіх курсах. Становішча пачатковых школаў цяжкае, але не безнадзейнае, бо на нашай старане констытуцыя і законы, і той, ці іншы школьны павятовы інспэктар, ці стараста, калі ня выконваюць законных жаданьняў насяленьня аб адчыненьні беларускай школы, зьяўляюцца праступнікамі і здрайцамі ўласнае дзяржавы. Ня тое зусім робіцца ў Савецкай Беларусі. Там бальшавіцкая ўлада зацікаўлена і рупіцца больш адкрываць агітацыйныя курсы, як пачатковыя школы. Але на тое, каб адкрываць школы патрэбны перад усім кадр кваліфікованых настаўнікаў. Дзеля гэтага адчынены будуць настаўніцкія курсы. Нашым абавязкам будзе дамагацца ад польскае ўлады, каб гэтыя курсы былі адчынены ў Вільні, як у цэнтры беларускага нацыянальна-культурнага жыцьця.

**Грам. Більдзюкевіч** чытае рэфэрат аб сярэдняй школе. Адной з галоўных прычын, чаму сярэдняя беларуская школа ня можа стаць на вышыні свайго заданьня ёсьць брак інтэлігэнтных сілаў. Усе добра памятаюць тыя часы, калі Беларускі Нацыянальны Камітэт выдаваў патэнты на беларускасьць. Гэта адпіхнула ад беларускага жыцьця шмат ня толькі інтэлігэнтных, але навучных сіл. Сёньня беларускі пэдагог мае перад сабой вялізарную задачу: вучыць моладзь беларускай мове без адналітай тэрміналёгіі і без падручнікаў. Апрача таго, беларусы маюць толькі адзін тып школаў — клясычныя гімназіі, а нам трэба яшчэ і рэальныя і камэрцыйная школы. Далей прамоўца апіс-

*) Языковыя законы былі апрацованы г. зв. камісіяй крэсовых рэчазнаўцаў і былі прыняты большасьцю галасоў усіх польскіх партыяў — проціў галасоў Беларускага Пасольскага Клюбу і інш. Між іншым, некаторыя прамоўцы з польскіх партыяў у Сойме падчас дыскусіі матывавалі сваё нэгатыўныя адносіны да гэтых законаў тактыкай Бел. Пас. Клюбу (Рэд.).

---

ўсё выразьней, усё галасьней. Ужо навет яму пачудзілася, што пачынаюць выразна выклікаць яго прозьвішча... «Што гэта?» — яшчэ праняслося ў яго галаве. А тут раптам магутны хор: «Адвеку мы спалі, і наз разбудзілі»... Ен аж устрапянуўся. Газэта выпала з рук. Вытрашчыўшы вочы глядзеў ён зьдзіўлены... «Што гэта ёсьць?» — працёр свае вочы. — Купэ няма.. нейкая вялікая саля, ўся залітая электрычным сьвятлом... навакола лёжы... ўсюды паўнюсенька народу... ўсе пяюць гімн, абярнуўшыся тварам да цэнтральнае лёжы, а ў гэтай лёжы — а паночкі мае даражэнькія! — ён, ён сам Ярмеіч і ад'ютанты яшчэ ззаду. «Што гэта ёсьць?!» — ізноў, як маланка, праняслося ў яго галаве...

А здолу нясуцца воплескі і крыкі: «Няхай жыве наш Ярмеіч!... Няхай жыве... слава яму!...» І ён сам ужо захацеў запляскаць і закрычаць: «Няхай жыве... слава яму!...» але пачуў ззаду сябе шэпт ад'ютантаў: „Пане прэзыдэнце! Ня трэба пляскаць... Цяпер трэба падзякаваць і сказаць прамову..."

Ен хацеў азірнуцца да ад'ютантаў, але вочы яго затрымаліся на іншых лёжах, дзе кожная мела сваю ад'знаку і свой склад.

Вось направа ад яго лёжа беларускага прэм'ер-міністра і фігурка знаёмая ў ёй—маленькая, лысенькая, з чорнымі вусікамі, якая паглядала на яго досіць ехідна.

— Няўжо-ж гэта ён?.. — зьдзівіўся Ярмеіч, — ён, ён самы і ёсьць!... а бадай яго!...

Далей — супраці гэнае лёжы — лёжа міністраў. Ба! і тутака ўсе знаёмыя твары: вось Гарбуля сядзіць, вось ксёндз, а навет і Міхась... а бадай іх!...

Далей было некалькі лёжаў пустых.

— А гэта-ж чаму? — падумаў ён. На першай было напісана: «Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт», на другой — «Беларуская Цэнтральная Школьная Рада», на трэцяй — «Камітэт ахвярам вайны» і некалькі іншых.

— А чаму-ж яны пустыя? — ізноў зьдзівіўся ён і хацеў ужо быў запытацца ў сваіх ад'ютантаў, як зноў вочы яго затрымаліся на знаёмых тварах у лёжы міністраў, і ён зразумеў дзеля чаго лёжы пустыя — ўсе пайшлі ў міністры.

Далей ішла лёжа Віленскае Беларускае Гімназіі, ў якой знаходзіўся толькі сам дырэктар, які сядзеў паміж двох крэслаў, дый яшчэ вучыцель Асьлёрын, які карыстаўся з часу і падчышчаў свайму дырэктару боты.

Далей... — а гэта што?!... — і вочы яго насупіліся — гэтыя, як сюды папалі?!... убраць іх!..

Гэта былі: Беларускае Грамадзянскае Сабраньне, Тымчасовая Беларуская Рада і Беларускае Таварыства „Прасьвета", і „убраць іх" ужо ня было часу, народ на доле вэлнаваўся, патрабаваў і чакаў прамовы Ярмеіча.

І ён падняўся... Настала ціша. Ужо адчыніў ён рот, каб пачаць прамову, ўжо правёў рукой па сваіх кудлах, ужо залажыў руку за край свайго сурдута, але як ні сіліўся, як ні стараўся, але ня мог выціснуць з сябе а ніводнага гуку.

— Што гэта са мной робіцца? — думае ён. У гэты момэнт, праз усю салю, як ерыхонская труба, прагрымеў нейкі голас з Усхо-

вае цяжкае становішча сярэдняе школы ў Савецкай Беларусі, гдзе ёсьць нейкая пародыя на школу і гдзе моладзь выхоўваюць у пэўным палітычна-соцыяльным кірунку бальшавіцкага зьместу. Там, гдзе палітыка—няма навукі. У канцы прамоўца кажа, што нам трэба дамагацца, каб моладзь, якая выйшла з муроў беларускіх сярэдніх школаў прынімалася ў польскія унівэрсытэты.

**Грам. Косьцевіч** робіць даклад аб Т-ве „Прасьвета". Т-ва „Прасьвета", статут якога зацьверджаны міністэрствам унутраных справаў на абшар усяе Польшчы, мае перад сабой вялізную задачу арганізаваць беларускія культурныя сілы, каб яны маглі будаваць беларускае школьніцтва. Да гэтага часу манаполь на беларускія школы трымала ў сваіх руках „Таварыства Беларускае Школы", але, як бачым, у рэзультаце яго дзейнасьці беларускія школы ня толькі не адчыняюцца, але той малы лік школаў, які яшчэ істнаваў памяншаецца кожны дзень. Нам гаворацць, што гэтаму Т-ву Беларускае Школы не зацьвярджаюць статуту на ўсю Польшчу, але мы добра ведаем, што некаторыя быўшыя папяровыя прэм'еры, каб ня выпусьціць кіраўніцтва з сваіх рук, не дапускаюць да працы тых культурных сіл, якія гэтым прэм'ерам не аддаюць гонараў. Мы клічам усіх да працы і факт, што вы ўсе сядзіце тут зьяўляецца найлепшым гэтага довадам. На падставе статуту у мясцовасьці, гдзе зьбярэцца 10 чалавек, якія захочуць арганізаваць гурток Т-ва „Прасьвета", гэты гурток павінен быць прызнаваны ўладай. Як бачым, мы маем вялікія магчымасьці— трэба толькі працаваць. Не для барацьбы за права на родную школу мы гуртуем свае сілы, а за самую рэалізацыю гэтага, ўжо гатовага права, якое прыйшло само згары. Ня цеснымі інтэлігэнцкімі гурткамі, што сядзяць у Вільні, можна рашыць задачу аб нашай школе, а сіламі арганізованага настаўніцтва і ўсіх нацыянальна-культурных сіл, якія ёсьць у народзе.

Прадстаўнік Лідзкага павету **грам. Данільчык**: Беларускіх пачатковых школаў няма, ня гледзячы на тое, што насяленьне жадае школы беларускай. Становішча настаўніцтва цяжкае. Прамоўца вітае тых, хто аддае свае сілы і час школьнай справе.

Прадстаўнік Баранавіцкага павету Ляхавіцкае воласьці **грам. Расоха**: Насяленьне нашае воласьці дамагаецца адкрыцьця беларускіх школаў. У польскія пасылаюць дзяцей неахвотна. Тып школы пажаданы чыста беларускі, але польская мова павінна быць уведзена, як прадмет.

Прадстаўнік мястэчка Ляхавічы грам. **Кавальскі** кажа, што насяленьне пераважна беларускае, але ніводнай беларускай школы няма.

Прадстаўнік Сіняўскае воласьці Нясьвіскага п. грам. **Адарыч** гаворыць аб тым, што насяленьне гэтае воласьці з нецярпеньнем чакае. калі ўрэшце будзе адчынена беларуская пачатковая школа. Дагэтуль адчыняюцца школы толькі польскія.

Прадстаўнік пагранічнае вёскі Слабада грам. **Ярошын** падкрэсьлівае факт пасылкі прымусам дзяцей у польскую школу ў той час, як вучыцель там сядзіць зусім неадпаведны.

Прадстаўнік Грыцэвіцкае воласьці, Нясьвіскага пав. грам. **Кішка:** Жыхары стараліся і прасілі школьнага інспэктара адчыніць беларускія школы, а замест гэтага адчынены польскія, а тыя дзьве беларускія школы, што былі—зачынены.

Прадстаўнік Клецкае гімназіі грам. **Арэнь** апавядае, як залажылася гімназія і якія труднасьці і перашкоды былі ў адтрыманьні канцэсіі і будынку. Як прадстаўнік Сноўскае воласьці кажа, што ў гэтай воласьці наагул ніякіх школаў, ні польскіх, ні беларускіх няма.

Прадстаўнік Клецкае воласьці грам. **Апанасевіч** кажа аб адсутнасьці беларускіх пачаткавых школаў, дзеля чаго шмат дзяцей застаюцца без прасьветы.

Прадстаўнік Ланскае воласьці грам. **Каспэр**: Вучыцялёў у воласьці 30 асоб, з якіх працуюць толькі 5. Шмат разоў зьвярталіся да ўлады аб адкрыцьці прыватных школаў, але дазволу не дабіліся. У польскія школы сяляне пасылаюць дзяцей неахвотна.

Прадстаўнік Дзісьненскага павету грам. **Любчонак:** Беларускіх школаў няма, але шмат польскіх. Прыгавары насяленьня затрымлівае войт воласьці.

Прадстаўнік мяст. Пагост, Дзісьненскага пав. грам. **Катовіч:** Школ беларускіх у нас няма, ёсьць 4 школы польскія. Вучыцялёў шмат, але працуе адзін.

Прадстаўнік м. Смаргоні грам. **Чыжэўская:** Есьць вучыцялі, якія скончылі і польскія і беларускія курсы, але яны цяпер не працуюць, бо няма школаў. Беларускія школы, якія былі, або пазачыняны, або перароблены ў польскія.

Прадстаўнік Слонімскага павету грам. **Дожын:** Насяленьне наагул неахвотна пасылае дзяцей у польскія школы і дзеля гэтага стараецца адчыніць хоць прыватныя, але беларускія.

Прадстаўнік Горадзеншчыны грам. **Шурпа.** Шмат школаў было падчас нямецкае окупацыі, але цяпер большасьць пазачынялася і засталося толькі 3 школы. У Горадне ёсьць прытулак для дзяцей. Вучыцельства пераважна сядзіць бяз працы. Усе зацікаўлены новым напрамкам у беларускім нацыянальным руху.

Прадстаўнік Дунілавіцкага пав. грам. **Берняк:** Да мінулага году ў нас было шмат беларускіх школаў цяпер яны ў большасьці пазачыняны. Шмат настаўнікаў арыштована.

Пасьля дакладаў з месцаў забірае голас старшыня зьезду грам. **Паўлюкевіч**, які падкрэсьлівае ў сваёй прамове з аднаго боку цяжкае становішча беларускае школы, якое выясьнілася з дакладаў з месц і агульнае жаданьне беларускай школы *(воплескі)*. Зачыняючы паседжаньне, Старшыня прапануе прысутным запісацца ў сэкцыі: 1) пачатковых школаў; 2) сярэдніх школаў; 3) арганізацыйную.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ 19. XII.

Да 2 гадз. працуюць сэкцыі, пасьля чаго апрацованыя рэзалюцыі перадаюцца ў Прэзыдыум. Перад пачаткам паседжаньня зьяўляецца на зьезд Куратар Віленскага Школьнага Вокругу п. **Гонсіороўскі**.

Старшыня зьезду **грам. Паўлюкевіч** прапануе прачытаць рэзалюцыі і тэкст дэпэшаў міністру Тугуту і Сойму, выслухаць прывітаньне Куратара і далей адчыніць дыскусію.

Зьезд прыймае прапанову старшыні.

**Грам. Косьцевіч** чытае рэзалюцыі сэкцыяў: а) пачатковых школаў, b) сярэдніх школаў і с) арганізацыйнай. (глядзі № 53 „Грам. Гол.").

**Старшыня грам. Паўлюкевіч** чытае тэкст дэпэшаў. Зьезд пастанаўляе выслухаць прывітаньне п. Куратара Віленскага Школьнага Вокругу.

Куратар **п. Гонсіороўскі**: Па волі Сойму і Сэнату галасамі ўсіх палякоў, пачынаючы ад крайняй правіцы і да лявіцы, прыняты закон аб мовах для нацыянальных меншасьцяў. Там, гдзе ёсьць свядомае жаданьне насяленьня — школы будуць адчынены ў яго роднай мове. Законы аб мове для меншасьцяў даказваюць высокую толеранцыю польскага народу, які захаваў у сабе традыцыю толеранцыі. Пры рэалізацыі законаў паўстаюць вялікія труднасьці, дзеля таго, што мала ёсьць настаўнікаў, якія падгатоўлены ўжо да працы. Больш усяго гэта адчуваецца ў нашым вокрузе, гдзе тып школы пераважна аднаклясовы і адзін настаўнік выкладае ўсе прадметы. Урад пастанавіў заргнізаваць 10 месячныя курсы г. зн. да кастрычніка 1925 году будзе ўжо кадра новых настаўнікаў. Карысная праца можа быць толькі пры варунках забесьпячэньня матар'яльнага становішча настаўнікаў і дзеля гэтага Урад пастанавіў выдаваць курсантам дапамогі ў разьмеры настаўніцкае пэнсіі. Урад цьвёрда пастанавіў ўвесьці ў жыцьцё языковыя законы. Настаўнікі павінны выхоўваць добрых грамадзян на шчасьце Рэспублікі. Улада будзе бароцца і не дапусьціць, каб у школе мела месца палітыка і ўсё, што не адносіцца да навукі. Ад лёяльнасьці насяленьня залежыць выкананьне языковых законаў. *(Воплескі)*.

Пасьля гэтага п. Куратар разьвітваецца з Прэзыдыумам Зьезду і пакідае паседжаньне пры воплесках прысутных.

Далей галасуецца тэкст дэпэшы міністру Тугуту. Тэкст прыймаецца аднагалосна. Над тэкстам дэпэшы Маршалку Сойму паўстае дыскусія.

**Грам. Сенкевіч** прапануе адкінуць тую частку дэпэшы, гдзе гаворыцца аб жалі і зьдзіўленьні, чаму проці языковых законаў выступаў Белар. Пасол. Клюб.

**Старшыня грам. Паўлюкевіч** падтрымоўвае запрапанованы Прэзыдыумам тэкст дэпэшы.

**Грам. Косьцевіч** зазначае, што крытыкаваць дзейнасьць сваіх паслоў — права кожнага беларуса, хаця паслы гэтага й ня любяць. Над языковымі законамі паслы павінны былі спыніць сваю ўвагу, а што яны ў свой час не падалі лепшага законапроекту, дык гэта іх віна і аб гэтым можна толькі пашкадаваць.

За пасылку цалком дэпэшы гавораць яшчэ грам. **Станкевічанка** і грам. **Більдзюкевіч**.

**Грам, Пяткевіч** прапануе адкінуць другую частку дэпэшы, дзе гаворыцца аб Бел. Пас. Клюбе.

У галасаваньні, за пасылку галасавала 49 дэлегатаў, проціў — 16 і ўстрымалася — 9 дэл.

Пасьля гэтага галасуюцца рэзалюцыі (глядзі № 53 „Грам. Гол.") і апошняе слова гаворыць Старшыня Зьезду **д-р Паўлюкевіч**, які пад-

---

ду: «Круці, Гаўрыла!...» і знаёмая фігурка з лёжы беларускага прэм'ер-міністра выскачыла з нейкай ручкай, як ад шарманкі, ўскочыла да яго ў лёжу і, адпіхнуўшы ад'ютантаў, уставіла гэтую ручку у нейкае месца яму і пачала накручваць. Толькі цяпер заварушыўся яго рот, толькі цяпер пачало находзіць на яго натхненьне. На чырвоным яго твары выступіў гарачы пот і вочы заблішчэлі.

— Брава! брава! — раздалося з лёжы міністраў...

— Не пе-пе-рекрути мам-мам-мамочка...— пачуўся нечы голас... — Слухаем, слухаем...— крычаў народ...

І ён ізноў падняўся: — Паны паважаныя! — пачаў ён, — кажу Вам шчыра, як...

Але на доле нешта пачалі шумець, раздаліся галасы: — дэлегаты ідуць!... дэлегаты ідуць!... Трэба раней выслухаць дэлегатаў, а пасьля яго прамову...

— Што гэта за дэлегаты, — падумаў ён, — настаўніцкі зьезд ці што? Але ня было калі яму думаць, бо саля пачала напаўняцца дэлегатамі — ішлі інтэлігэнты безработныя, ішлі старыя і маладыя настаўнікі, ішлі багатыя і бедныя сяляне, ішлі бежанцы, ўдовы, сіроты, прытулкі і іншыя, пацягнуўся Макар з іржавай пілою і яшчэ нейкая фігура—высокая, худая з блядым тварам і чорнаю чупрынаю, а за імі, нарэшце, нехта ў ланцугох, якога вялі два міліцэйскія...

— А, Божачка ты мой! колькі-ж гэта іх і куды яны ідуць, — думаў Ярмеіч. А яны шлі, ішлі, праходзілі праз салю і скіроўваліся за сцэну.

Ізноў з Усходу прагрымеў голас:—«Круці Гаўрыла»... — Але народ не пазволіў: — Ня трэба круціць... Ня трэба нам ужо круцялёў... Досыць... Годзі... Няхай дэлегаты скажуць... Мы слухаем дэлегатаў...

І паднялася заслона і пачалі выходзіць на сцэну адзін за адным дэлегаты ды пачалі гаварыць.

Першы гаварыў стары настаўнік: — Паночку — крычаў ён да цэнтральнае лёжы, трасучы сваімі драхлымі кулакамі, — паночку! Дзе мая школа?!... Як ты ня быў у Сойме, дык я меў школу, а цяпер ты зачыніў... аддай-жа маю школу...

Другім гаварыў безработны інтэлігэнт і ўсё больш зварочваўся да лёжы беларускіх міністраў: — Паночкі! — крычаў ён — Дзе-ж вашыя абяцанкі!... Што вы там нарабілі ў Сойме, што цяпер мы ня можам адтрымаць нігдзе ніякае пасады і што ад нас усе чураюцца як ад зачумленых...

Далей гаварыў багаты селянін: — Паночку! Не паклапаціўся ты ні для бедных — ня даўшы ім ні ляску на адбудову, ні зямелькі, ні зьмяншэньня падаткаў, але не паклапаціўся і аб багатых, — ня даўшы ім правоў гаварыць і пісаць у роднай мове да ўраду... і гэтак далей і г. д.

Нарэшце, вышаў той «нехта ў ланцугох»: — Паночку! Я адзін з нялічаных рэдактароў твае «Сялянскае Праўды»... Зашто ты застаўляеш нас альбо ўцякаць за граніцу, альбо сядзець у вастрозе...

«Досіць!.. досіць!.. Годзі!»... раздаліся галасы з лёжы міністраў...

твару, асадныя гарматы старога расейскага тыпу, цяжкая японская палявая артылерыя. У артылерыі, ўлучаючы й тэхнічныя склады, паркі, майстроўні і г. д. служаць агулам каля 10.000 чалавек, затым каля 50.000 у кампаніях пры панцырных самаходах, танках, панцырных цягнікох і г. д. Лік усіх родаў зброі, ня лічачы авіяцыі і газавых адзінак, дасягае, гэткім чынам, 456.000 чал., пры чым пяхота лёгка можа быць падвоена, а коньніца павялічана на 50.000.

Чырвоны паветраны флёт не зьяўляецца паважнаю сілаю. Тры гады назад Троцкі рабіў вялікія натугі дзеля стварэньня паветранага флёту, былі куплены за граніцаю аэроплляны, пабудованы аэродромы і г. д., створаны „Доброфлот", аднак-жа чырвоная армія мае ня больш, як 200 баявых аэроплянаў.

Трэба яшчэ ўзяць пад увагу вайскі чэ-ка, якіх налічваюць ад 160—200 тысяч чалавек, маючых усе роды зброі, ня выключаючы танкаў і аэроплянаў. У замежнай вайне назначэньне гэтых палкоў будзе гэткім, што яны за плячыма чырвонаармейскіх палкоў будуць стаяць з кулямётамі і ў выпадку, калі-б чырвонае войска аказалася нястойкім, дык чэкістыя пачнуць да іх страляць ззаду, змушаючы слухацца прыказаў.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**= Канфіскацыя газэты.** 24 сьнежня Камісарам Ураду на м. Вільню сканфіскована аднадзёўка на беларускай мове „Каляда".

**= Барацьба са спэкуляцыяй.** Дэлегатам ураду разасланы цыркуляр аб барацьбе з ліхваю мініст. унутраных справаў, у якім цыркуляры гаварыцца, што лік выкрытых і перададаных суду справаў сьведчыць аб інтэнсыўнасьці барацьбы. Даручаецца мясцовым уладам падробна звучыць рыначныя цэны і вясьці барацьбу са спэкуляцыяй у самым шырокім разьмеры.

**= Апошні срок абмену марак.** Мін. скарбу напамінае, што апошні срок абмену польскіх марак на злотыя канчаецца 1 траўня 1925 году. Да гэтага часу ў абегу ёсьць больш як 3 мільярды марак на суму каля 1.800.000 злот.

**= У Т-ве „Прасьвета".** Да Прэзыдыуму Цэнтральнае Рады Беларускага Т-ва „Прасьвета" штодня зьвяртаюцца настаўнікі, якія не затрымліваюцца перад паездкай з провінцыі ў Вільню, каб даведацца аб налажэньні справы курсаў для беларусаў-настаўнікаў. З прычыны вялізнага зацікаўленьня гэтаю справаю нашага настаўніцтва апрацованы Т-вам „Прасьвета" мэморыял мае быць перасланы п. Міністру Прасьветы ў найбліжэйшыя дні.

**= Нагрperíody за выкрываньне зброі.** „Віл. Утро" перадае, што за паведамленьні аб незаконным трыманьні зброі назначаюцца ўладамі награды: за зброю вайсковую (кулямёт) 100 злот., стрэльбу 50 злот., калі яна ў парадку, за няспраўную стрэльбу—20 злот. За паляўнічую зброю: стрэльбу добрую 20 зл., няспраўную—10 злот.; за рэвальвэр ад 5 да 15 злот. Награды маюць быць выплачваны Камісарам Ураду ў м. Вільні і адпаведнымі павятовымі старастамі ў провінцыі.

**= Беларускі Календар на 1925 год** выйшаў з друку. Набываць можна ў Віленскай Беларускай Кнігарні, (Завальная вул. 7) і ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні (Людвісарская, 4).

# УСЯЧЫНА.

**Вуж у ролі вартаўніка грошай!**

У Англіі, дзеля забесьпячэньня ад бандытаў і зломшчыкаў, якія там таксама спрытна працуюць, хтосьці прыдумаў паверыць пільнаваньне грашавое касы гэтак званаму „каралеўскаму" вужу, які мае 9 сантым. даўжыні, а кошт утрыманьня яго раўняецца ...10 шылінгам у тыдзень. Вуж привезены з Паўночнае Амэрыкі. Вуж гэты лепей забесьпячае грашовую касу ад рабунку, чымся самыя найхітрэйшыя замкі, якім зладзеі ўсё-ж такі часта-густа ўмеюць даваць раду і касы абіраюць начыста.

Вось-жа гэты найнавейшы вартаўнік грошай — вуж, — зьмешчаны проста ў самой касе, якая маець маленечкія дзірачкі, цераз якія ўваходзіць сьвежае паветра. У касе ёсьць цёплае гнядо, дзе вуж можа сабе спакойна вылежвацца. Уявім сабе спрытнага зломшчыка, які падчас начное пішы залез у канцылярыю альбо прыватную кватэру і, перамогшы, пасьля цяжкае працы, апошні замок, паднімае лятарню, хочучы асьвятліць нутро касы; раптам натыкаецца на вужа, які сабе сычыць, патрывожаны шорхатам ды сьвятлом ад лятарні! Вуж выцягнуўся, гатовы кінуцца на бандыта, які трывожыць яго спакой. Пэўна-ж, спалоханы неспадзяваным вартаўніком, злодзей уцякае, кідаючы на месцы прылады, а часам і часьць вопраткі; паліцэйскага ён схапіў-бы можа за горла, а з гэткім гадам — справа труднейшая!

**Чалавек у ролі пaштовае пасылкі.**

Адзін грамадзянін Сан-Францыско (ў Амэрыцы) павінен быў срочна выехаць з Нью-Іорку ў Францыю!

Па абліччэньні выходзіла, што калі-б ён скарыстаўся чугункаю для пераезду ўпоперак паўночна-амэрыканскае зямлі ад Цыхага да Атлянтыцкага акіяну, дык не пасьпеў-бы на карабель, які адходзіў з Нью-Іорку ў Шэрбург.

Амэрыканец пастанавіў ляцець аэроплянам, але на адлятаўшы ў той самы дзень паштовы самалёт з Сан-Францыско ў Нью-Іорк цераз Чыкаго, ужо ня прымалі падарожных; дык пасьпяшаўшы амэрыканец рашыўся на тое, каб адгуляць ролю паштовае пасылкі. Пасьля гэтага яго зважылі і згодна з яго цяжарам, паводлуг паштовага тарыфу, ён заплаціў за свой перавоз... 683 даляры 52 цэнты.

Толькі амэрыканцы здольны на гэткія штукі і на вялікія гэткія расходы.

Але затое ўпарты амэрыканец пасьпеў на патрэбны яму час прыляцець у Нью-Іорк ды ехаць сабе далей.



# Грамадзяне!

Спауняйце свой абавязак і запісвайцеся у сябры Беларускага Т-ва „ПРАСЬВЕТА".







Радактар-Выдавец Язэп Салавей. Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўская, 1. Тэлеф. № 203.